

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 25 (1540) 23 ЧЭРВЕНЯ 2021 г.**

# 80 гадоў таму назад пачалася Вялікая Айчынная вайна савецкага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў

## *Наступствы Вялікай Айчыннай вайны для Беларусі*

Перамога над ворагам у Вялікай Айчыннай вайне была дасягнута коштам вялікіх ахвяр і незаменных страт беларускага народа. Нямецкія захопнікі пакінулі пасля сябе жудасны крывавы след, беды і нябачанае спусташэнне. Гэта быў загадзя распрацаваны, абдуманы і мэтанакіраваны план генацыду, знішчэння людзей, рабавання нацыянальнага багацця краіны, ліквідацыі дзяржаўнага ладу. На захопленай тэрыторыі нацысты адкінулі ўсе міжнародныя прававыя нормы. Злачынствы акупантаў па сваёй масавасці і страшнай жорсткасці не ведалі сабе роўных у найноўшай гісторыі Беларусі. Па ацэнках спецыялістаў, Беларусь больш, чым якаянебудзь іншая краіна Еўропы пацярпела ад гэтай вайны.

Расследаваннем злачынстваў акупантаў і высвятленнем памераў шкоды, прычыненага імі



ў гэтай вайне, займалася адмыслова створаная Надзвычайная дзяржаўная камісія (НДК), якая грунтавала свае высновы на аснове дакументальных сведчанняў. На тэрыторыі Беларусі гэта праца вялася з пачатку 1944 г.

Прамая матэрыяльная шкода, нанесеныя Беларусі акупацыяй, вылічаецца ў 75 млрд рублёў (у цэнах 1941 г.), што ў 35 раз перавышала бюджэт рэспублікі 1940 г.

На беларускай зямлі нямецкія захопнікі спалілі, разбурылі і разрабавалі 209 з 270 гарадоў і раён्ных цэнтраў (на 80-90 % былі разбураны Менск, Гомель, Віцебск), 9200 вёсак.

Агульныя страты прамысловасці склалі 6 225 млн рублёў (у коштах 1941 г.). Эканоміка рэспублікі па прамысловых і энергетычных магутнасцях была адкінута на ўзровень 1913 г. Акупанты спалілі і разбурылі 100 465 прамысловых вытворчых будынкаў. Былі знішчаны ці вывезены ў Германію 10 338 прамысловых прадпрыемстваў, уключаючы ўсе буйныя электрастанцыі (85% іх даваеннай колькасці).

Надзвычайная дзяржаўная камісія па расследаванні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў устанавіла, што маёмасная шкода сельскай гаспадарцы склала 22 471,9 млн рублёў. Былі знішчаны 10 тыс. калгасаў, 92 саўгасы, 316 машынна-трактарных станцый, 1200 тыс. сельскіх будынкаў, у тым ліку 421 тыс. жылых хат калгаснікаў.

Варварскімі метадамі планава знішчаліся і раскрадаліся ўстановы культуры і навукі, адукацыі. Паводле дадзеных Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі, з 1941 г. па 1944 г. было знішчана 10 музеяў, шкода склала 163,4 млн рублёў. Акрамя таго, былі разрабаваны яшчэ 8 беларускіх музеяў. У краіны Цэнтральнай і Заходняй Еўропы былі вывезены многія творы беларускага, рускага і заходнееўрапейскага мастацтва. Гэта захоўваныя ў Дзяржаўнай мастацкай галерэі БССР каля 1700 твораў жывапісу і абразоў, больш за 50 скульптур, а таксама шматлікія малюнкі, гравюры, музычныя інструменты, мэбля. Сярод іх творы знакамітых майстроў: І. Айвазоўскага, К. Брулова, В. Бялыніцкага-Бірулі, М. Урубеля, І. Левітана, І. Рэпіна, В. Сурыкава, а таксама Мікеланджэла, К. Растрэлі і інш. Толькі невялікая частка вывезенага была вернута Беларусі.



У гады вайны Беларусь пазбавілася свайго нацыянальнага знака - Крыжа Ефрасінні Полацкай, унікальнай каштоўнасці, створанай у 1161 г. Была страчана і знакамітая калекцыя слуцкіх паясоў, у якіх ярка адбіліся высокае мастацкае майстэрства і самабытнасць беларускага народа.

Амаль цалкам была знішчана рэспубліканская сістэма бібліятэк, разрабаваны яе кніжны фонд, які складаў 10 млн асобнікаў. Толькі з фондаў Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У.І. Леніна (у 1941 г. налічвалася 2 млн тамоў) былі страчаны больш за паўтара мільёна тамоў, сярод якіх рэдкія і старадрукаваныя выданні, рукапісы. Сёння каля 1 млн тамоў застаюцца нязнойдзенымі.

Разбурэнню падвергліся 5 тыс. тэатраў і клубаў.

Акупантамі былі знішчаны Беларуская акадэмія навук і 24 навуковыя ўстановы.

За гады вайны былі спалены і разбураны 8825 з 12 294 школ. Матэрыяльныя страты, нанесеныя ўстановам адукацыі рэспублікі, склалі 4,6 млрд рублёў.

Але як бы вялікай ні была матэрыяльная шкода, самай балючай і цяжкай стратай з'явілася гібель людзей.

За гады акупацыі гітлераўцы правялі звыш 140 карных аперацый, падчас якіх цалкам ці часткова знішчылі 5454 вёскі. Страшным знакам злачынстваў гітлераўцаў на беларускай зямлі стала вёска Хатынь, спаленая разам з усімі жыхарамі. Яе лёс падзялілі яшчэ 618 сельскіх населеных пунктаў, 188 з якіх ужо ніколі не былі адноўлены.

На тэрыторыі Беларусі існавала каля 250 лагераў савецкіх ваеннапалонных і 350 месцаў прымусовага ўтрымання насельніцтва. Толькі ў вёсцы Трасцянец, дзе знаходзіўся адзін з самых вялікіх па колькасці знішчаных там людзей нацысцкіх лагераў смерці, загінула 206 500 чалавек. Прычым у адрозненне ад Асвенцыма, Майданака і Трэблінкі ў ім знаходзілася галоўным чынам мясцовае насельніцтва. Акрамя таго, у 186 населеных пунктах былі створаны габрэйскія гета. У менскім гета ўтрымоўвалася каля 100 тыс. чалавек, з якіх ацалелі адзінкі. Беларускія навукоўцы кажуць пра тое, што ў Беларусі ў сучасных межах за гады вайны былі знішчаны 715 тыс. габрэяў.

Лічыцца, што ў перыяд акупацыі ў Германію на прымусовыя работы былі вывезены каля 400 тыс. чалавек (у тым ліку 24 тыс. дзяцей).

Статыстыка сведчыць: калі да вайны ў Беларусі ў яе цяперашніх межах пражывала 9,2 млн чалавек, то ў канцы 1944 г. - 6,3 млн чалавек. Па дадзеных НДК па расследаванні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў, усяго на тэрыторыі БССР забіта 2 219 316 чалавек цывільнага насельніцтва і ваеннапалонных. Аднак пасля высвятлілася, што звесткі пра людскія страты па шэрагу раёнаў былі значна заніжаны, а таксама, што дадзеныя па некаторых лагерах для ваеннапалонных - недакладныя. У гэтую лічбу таксама не ўключаны тыя байцы Чырвонай Арміі з ліку беларускіх жыхароў, хто прапаў без вестак ці патрапіў у палон і загінуў там. Не ўлічаны таксама вывезеныя ў Германію і загінулыя там мірныя жыхары. У наш час некаторыя даследнікі лічаць, што з



улікам ускосных страт за гады Вялікай Айчыннай вайны загінула ад 2,5 да 3 і больш млн жыхароў Беларусі, г.зн. не меней, чым кожны трэці.

Прадаўжала несці страты Беларусь і пасля вызвалення. Мы страцілі большую частку Беластоцкай вобласці. 20 верасня 1944 года Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Бераставіцкі, Ваўкавыскі, Гарадзенскі, Свіслацкі, Скідальскі і Сапоцкінскі раёны вобласці былі перададзены ў склад Гарадзенскай вобласці, а горад Беласток і яшчэ 17 раёнаў перададзены Польшчы, дзе зноў утварылі Беластоцкае ваяводства. Беластоцкая вобласць Беларусі 20 верасня 1944 года была скасавана. У выніку гэтага Беларусь страціла яшчэ каля 1 мільёна чалавек, у тым ліку каля 71,8% этнічных беларусаў (па дадзеных польскага перапісу 1931 года). У самім г. Беластоку па дадзеных на 13 кастрычніка 1939 г. 79% насельніцтва лічыла сябе беларусамі.

*Вікіпедыя.*







# Унёсак беларускага народа ў перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне

Важны ўнёсак у справу перамогі над агрэсарам унёс і беларускі народ. На франтах вайны супраць Германіі ваявалі 1,3 млн беларусаў. Каля 400 выхадцаў Беларусі сталі генераламі і адміраламі. Многія з іх камандавалі ў ваенны час буйнымі злучэннямі арміі і флота: 1 - франтамі, 21 - арміямі, каля 50 - карпусамі, звыш 100 - дывізіямі. Сярод генералаў і адміралаў, якія нарадзіліся на беларускай зямлі, - сталінскі маршал № 2, камандуючы Парадзу Перамогі Маршал Савецкага Саюза, двойчы Герой Савецкага Саюза К.К. Ракасоўскі, легендарны кавалерыйскі генерал Л.М. Даватар, генералы Ф.І. Кузняцоў, А.І. Антонаў, Л.С. Бярэзінскі, В.Н. Бібікаў, В.Р. Вашкевіч, В.С. Галушкевіч, С.А. Красоўскі, Б.А. Пігарэвіч, віца-адмірал В.П. Дрозд, контр-адміралы П.А. Трайнін і Г.Н. Халасцякоў, генералы (пасля Маршалы Савецкага Саюза) В.Д. Сакалоўскі і І. І. Якубоўскі і многія іншыя.



*К.К. Ракасоўскі*



*В.Д. Сакалоўскі*



*І. І. Якубоўскі*

Мужна ваявалі сыны беларускай зямлі і супраць японскіх мілітарыстаў. Так, выхадзец з Ляхавіцкага раёна генерал-маёр Г. Здановіч камандаваў дывізіяй, якая здзейсніла прарыў на глыбіню больш за 1000 км. Пры разгроме Квантунскай арміі праславіліся палкоўнік М. Бартaшоў, камандзір батальёна марской пяхоты Т. Пачтароў і інш.

На акупаванай нямецкімі войскамі тэрыторыі ваявала з ворагам 374 тыс. беларускіх партызан і звыш 70 тыс. падпольшчыкаў. Дзейнічала 1255 партызанскіх атрадаў, з іх 997 уваходзілі ў склад 213 брыгад. За гады вайны партызаны і падпольшчыкі забілі і паранілі каля 0,5 млн гітлераўцаў і іх памагатых, знішчылі 11 128 варожых эшалонаў і 34 бронецягнікі, больш за 18 700 аўтамашын, разграмілі 29 чыгуначных станцый, 948 варожых штабоў і гарнізонаў, падарвалі і спалілі 819 чыгуначных і 4710 іншых мастоў, разбурылі звыш 7300 км тэлефонна-тэлеграфных ліній сувязі, больш за 300 тыс. рэек, збілі і спалілі на аэрадромах 305 самалётаў, падбілі 1355 танкаў і бранемашын, знішчылі 438 артылерыйскіх гармат, 939 ваенных складоў.

Актыўны ўдзел прымалі беларусы ў антыфашысцкім руху еўрапейскіх краін - Францыі, Італіі, Бельгіі. Так, на тэрыторыі Францыі дзейнічаў партызанскі атрад "Ягуар", які ўзначальваў выхадзец з Магілёўшчыны В. Мяшкоў. Вядомасць атрымалі жаночы партызанскі атрад "Радзіма" на чале з мянчанкай Н. Лісавец, падпольная група мазырца В. Антоненкі і інш.

Змагаліся з ворагам выхадцы Беларусі і ў шэрагах войскаў саюзнікаў. Толькі ў складзе знакамітай арміі Андэрса, якая праславілася пры вызваленні Італіі, ваявала звыш 3 тыс. беларусаў. Нямала прадстаўнікоў беларускай эміграцыі ваявала ў шэрагах амерыканскіх і ангельскіх экспедыцыйных войскаў.

За мужнасць і гераізм, праяўленыя на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў варожым тыле, каля 300 тыс. выхадцаў з нашай рэспублікі былі ўзнагароджаны баявымі ордэнамі і медалямі. 408 (441) выхадцаў Беларусі ганараваны званнем Героя Савецкага Саюза. 65 чалавек сталі поўнымі кавалерамі ордэна Славы. 4 беларусы атрымалі званне Героя за ўдзел у разгроме мілітарысцкай Японіі.

У савецкім тыле на эвакуяваных прадпрыемствах працавалі 1,5 млн жыхароў Беларусі. Не шкадуючы сіл, яны ўносілі свой унёсак у справу разгрому ворага. Так, беларускія чыгуначнікі працавалі больш, чым на 40 магістралях краіны. З тэрыторыі БССР у глыб СССР было вывезена 120 буйных прадпрыемстваў і 14 прамысловых арцеляў, 60 навукова-даследчых інстытутаў, доследных гаспадарак, 20 вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў і інш. Важныя для абароннай прамысловасці даследаванні праводзілі беларускія навукоўцы Б. Ерафееў, А. Розін, С. Ліпатаў, А. Пракапчук, С. Дробных і інш.

*Вікіпедыя.*

# У вёскі Лідскага раёна завіталі з канцэртамі ваенныя агітбрыгады



Да абласной акцыі Гарадзеншчыны - "Ваенныя агітбрыгады", далучыліся сельскія ўстановы культуры Лідскага раёна.

Творчыя калектывы Лідскага цэнтра культуры, пачынаючы з 9 траўня, наведалі больш за 20 вёсак і змаглі крануць вяскоўцаў да глыбіні душы сваімі выступленнямі. У праграмы, якія падрыхтавалі ўстановы культуры, увайшлі тэматычныя вершы і песні аб вайне, словы ўдзячнасці ў адрас ветэранаў і працаўнікоў тылу.

Наперадзе вызначаны маршруты перамяшчэння "ваенных агітбрыгад", якія прадставяць культурную праграму ў аддаленых і маланаселеных вёсках Лідчыны.

***ЛРЦКНТ.***





## Моладзь Лідчыны наведала "Цягнік Перамогі"





Экскурсія выдалася цікавай і пазнавальнай. Маладыя людзі - актывісты Лідскага РК ГА "БРСМ", выдатнікі вучобы, прадстаўнікі Моладзевага парламента - змаглі ўбачыць абставіны франтавога жыцця.

Перад пачаткам экскурсіі галоўны спецыяліст аддзела ідэалагічнай працы і па справах моладзі Лідскага райвыканкама Вольга Каспорская адзначыла важнасць такіх мерапрыемстваў.

- Маладым людзям важна ўсведамляць, чым была Вялікая Айчынная вайна для беларусаў. З першых дзён вайна прыняла характар усенароднай барацьбы за нашу зямлю. Яна закранула інтарэсы ўсіх пластоў нашага грамадства. Нашы продкі пралівалі кроў за наша бясхмарнае сёння і заўтра. Мы павінны быць удзячныя ім за іх мужнасць і адвагу. І вельмі важна, каб памяць пра тую вайну захавалася яшчэ на доўгія гады, паколькі ў сучасным свеце спрабуюць перапісаць гісторыю і подзвігі нашых суайчыннікаў. Такія экскурсіі лічу патрэбнымі, паколькі для таго, каб не было вайны, неабходна жывая памяць пра яе, - сказала Вольга Каспорская.

Праект насамрэч унікальны. Склад "Цягніка Перамогі" ўключае 12 вагонаў, 9 з якіх - экспазіцыйныя. Экспазіцыя аднаго з вагонаў прысвечана подзвігу абаронцаў Берасцейскай цвердзі. Сімвалічна, што "Цягнік Перамогі" з вагонам, які апавядае пра подзвіг герояў Берасцейскай цвердзі, у дзень пачатку Вялікай Айчыннай вайны будзе знаходзіцца ў Берасці з 21 па 24 чэрвеня.

Аб'ёмныя светлавыя і гукавыя эфекты, тэатральнае асвятленне, механічныя спецэфекты, датчыкі прысутнасці, галаграмы прайграваюць лютыя бaі, дазваляючы адчуць нягоды ваеннага часу.

У нашай краіне праект рэалізуецца Беларускай чыгункай і ААТ "Расійскія чыгункі" ў рамках Года народнага адзінства і прымеркаваны да 80-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Ён ажыццяўляецца пры падтрымцы Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі і актыўным садзейнічанні рэспубліканскага добраахвотніцкага цэнтра.

У кожнага з прысутных засталіся незабыўныя ўражанні. Яны быццам бы перанесліся ў часы Вялікай Айчыннай Вайны.

***Максім Кісялеўскі, lidanews.***

# Ва Ушачах урачыста адкрылі помнікі Быкаву і Барадуліну




Урачыстае адкрыццё помнікаў выбітным пісьменнікам Беларусі Васілю Быкаву і Рыгору Барадуліну адбылося 18 чэрвеня ва Ушачах. На імпрэзе прысутнічала каля 100 ушачан і гасцей горада, у тым ліку кіраўніцтва раёна і вядомы беларускі рэжысёр Мікалай Пінігін.

Кіраўнік Ушацкага раёна Уладзімір Аўдошка падзякаваў ініцыятарам устаноўкі помнікаў, мецэнатам, скульптарам і архітэктару, а пасля зазначыў, што ўшачане ганарацца сваімі землякамі, нягледзячы нават на розныя палітычныя погляды:

- На душу насельніцтва мы самы паэтычны куток Рэспублікі Беларусь. Мы заўсёды гэтым ганарыліся. І калі ўзяць творчасць Васіля Быкава - гэта чалавек, які сам прайшоў вайну, напэўна, больш рэалістычных, можа, дзесьці і жорсткіх, але праўдзівых апавяданняў пра вайну не пісаў ніхто. Таму ён вядомы далёка за межамі і Ушацкага раёна, і Беларусі, і ва ўсім свеце. Тое ж самае можна сказаць і пра Рыгора Барадуліна як паэта. Некаторыя яго вершы разабраныя на цытаты, чатырохрадкоўі. Некаторыя з іх, яшчэ пачуўшы ў школе, немагчыма забыць.





Як зазначыў беларускі рэжысёр Мікалай Пінігін, нарэшце адбылася значная падзея ва Ушачах, якая аб'яднала Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна:

- Нарэшце і Рыгор, і Васіль! Даўно пара было гэта зрабіць. І вуліцы трэба і Быкава, і Барадуліна зрабіць. Паглядзіш - гэтыя Калініна і так далей. Але прыйдзе час!

Старшыня Ушацкага райвыканкама паабяцаў, што будзе працягнутая алея славутых землякоў і ва Ушачах. Ён таксама запэўніў, што як бы цяжка не было з бюджэтам, але яны знойдуць сродкі на яе добраўпарадкаванне і ўвекавечаць памяць яшчэ такіх вядомых землякоў як Пятрусь Броўка, Еўдакія Лось і Генадзь Габрук. Аўтарамі помнікаў Быкаву і Барадуліну з'яўляюцца скульптары Ігар Засімовіч і Аляксей Сарокін, архітэктар - Віктар Карака.

*"Яны паўсталі цалкам на народныя грошы - сотні прыхільнікаў нашых класікаў ахвяравалі разам больш за 11.000 даляраў, каб гэтая справа здзейснілася"*, - напісаў у facebook Глеб Лабадзенка.

Пасля ўрачыстага адкрыцця помнікаў усе ахвочыя наведалі сядзібу-музей Васіля Быкава ў Бычках. Там адбылася другая частка святочнай імпрэзы да дня нараджэння знакамітага пісьменніка. На ёй работнікі культуры спявалі, чыталі вершы паэтаў розных краін, прысвечаныя Васілю Быкаву, у тым ліку і Рыгора Барадуліна. Таксама на суд гледачоў быў прадстаўлены фрагмент тэатральнай пастаноўкі на ваенную тэматыку па аповесці Васіля Быкава "Бліндаж".



***Таццяна Смоткіна,***
*Беларускае Радыё Рацыя.*

# Зорка Эдуарда Астаф'ева



У выставачнай зале Саюза мастакоў экспануецца выстава шаноўнага Эдуарда Барысавіча Астаф'ева, які нарадзіўся 23 красавіка 1942 года у горадзе Хімкі Маскоўскай вобласці.

Пасля заканчэння вучобы у Беларускім тэатральна - мастацкім інстытуце (сучасная Акадэмія мастацтваў), дзе яго выкладчыкамі былі Андрэй Бембель і Аляксей Глебаў, ён вырашыў прысвяціць сваё жыццё беларускай культуры! Найбольш вядомыя творы Астаф'ева - манумент Раману Шаціле ў Светлагорску, больш за 20 мемарыяльных дошак (Максіму Багдановічу, Піліпу Пестраку, Кузьму Чорнаму, Кастусю Кірэенку) у Менску і іншых беларускіх гарадах, медалі Ф. Скарыне, А. Куляшову, К. Каліноўскаму, манументальныя комплексы, прысвечаныя Вялікай Айчыннай вайне.

Творы Эдуарда Барысавіча знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі, Нацыянальным гістарычным музеі, музеі Сучаснага беларускага мастацтва, Магілёўскім абласным мастацкім музеі імя П. Масленікава, літаратурным музеі Максіма Багдановіча.

Асабіста мне вельмі спадабаліся творы: "Максім Багдановіч" (1991), "Цырк" (1988), "Світанак" (1996), "Ева" (1998), “Алена” (1998). Асабліва спадабаўся твор "Перазімавалі", зроблены з алюмінія.

Пажадаем творцу добрага здароўя, натхнення, аптымізму, а таксама добрых цікавых творчых, здзяйснення ўсіх мар і задум!

Таксама заклікаю усіх творчых людзей і аматараў мастацтва наведаць выставачную залу Саюза мастакоў, дзе можна атрымаць незабыўная ўражанні.

***Аляксей Шалахоўскі,***
*гісторык культуры,*
*журналіст- фрылансер.*

# *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, “Наша слова”!*




**Заканчваецца падпіска на “Наша слова” на другое паўгоддзе 2021 года.**

**Падпісны індэкс: 63865.**

**Інфармацыя пра падпіску знаходзіцца на ст. 52 Каталога падпіскі на 2-е паўгоддзе.**

**Цана падпіскі:**
**на 1 месяц - 2,88 руб.;**
**на 3 месяцы - 8,64 руб.;**
**на 6 месяцаў - 17,28 руб.**

**Яшчэ ёсць два дні, каб паспець на пошту, падпісаць сябе і сваіх сяброў, а таксама патрэбныя ўстановы: бібліятэкі, музеі і інш., дзе на вашую думку павінна гучаць наша слова.**

№ 25 (1540) 23 ЧЭРВЕНЯ 2021 г. Наша слова

# Рукам - праца, душы - свята

Апошняе са сваіх пасяджэнняў аматарскае аб'яднанне "Сучаснік" вырашыла прысвяціць майстрыцам з "залатымі рукамі", ды і падстава знайшлася: аказваецца, аж з 2005 года ў чэрвені адзначаецца Сусветны дзень вязання. Вось і вырашылі запрасіць жанчын, кожная з якіх мае свой "почырк" і робіць унікальныя работы, маючы з прыладаў толькі ніткі і пруткі.

Ірына Салаўёва - прызнаная рукадзельніца ў нашым раёне. Яе сурвэткі, абрускі, жаночыя галаўныя ўборы, кардыганы і шмат што іншае ацэнены ўзганародамі не толькі раённых і абласных выставаў:

- Усё пачыналася з дзяцінства, - распавяла сп. Ірына. - Сям'я была вялікая, і ўсе, як кажуць, былі "з рукамі". Я пачала вязаць у 5-гадовым ўзросце. Канешне, першыя ўрокі дала маці, якая нарадзілася ў 1922 годзе і прайшла праз вайну. Яна расказвала пра тое, як у цяжккія ваенныя гады, яны, маладыя дзяўчаты, нечым стараліся дапамагчы байцам: вязалі рукавіцы, шапкі, шкарпэткі, шалікі.

І таму не выпадкова адной з маіх першых конкурсных школьных работ была паштоўка, прысвечаная маці, якой я, дачка, дзякавала ёй за перамогу. Калі вучылася, з абноўкамі было цяжка. Вязала сабе сукенкі.

На сёння, магчыма, няма такой тэхнікі вязання, якой бы не авалодала Ірына Салаўёва. Яна дэманструе на планшэце свае работы, з якіх, калі б можна было ўсё сабраць разам, можна было б стварыць асабісты музей.

Людміла Міхайлаўна Шалкаўнёва на сустрэчу прынесла некалькі сваіх работ, пра тэхніку выканання якіх многія нават не чулі:

- Вось гэтыя ўпрыгожанні, герданы, зроблены з бісеру. А гэта прыгожая шаля звязана "на відэльцы".

І тым самым выклікае цікавасць у прысутных: як гэта можна на звычайным відэльцы зрабіць такую прыгажосць? Аказваецца, гэта не звычайны сталовы відэлец, а так называецца прыстасаванне, якое дае магчымасць вязаць прыгожыя карункі, якія потым аздабляюцца дадатковымі ўзорамі з нітак розных колераў:

- Відаць, мы стаміліся ад таго, што нас акружаюць рэчы масавай машыннай вытворчасці, і хочацца нечага адметнага, зробленага рукамі, бо ў кожны выраб укладваецца яшчэ і часцінка сваёй душы. А вязаць я пачала таксама рана, з 7 год.

І яна дэманструе прыгожыя: сукенку для маленькай дзяўчынкі, два швэдары, якія гасцінцамі днямі паедуць у Віцебск.

Алена Міхайлаўна Дзямешка, прэзентуючы сваю работу "Подых зімы": безліч маленькіх сняжынак на цёмна-сінім небасхіле, з гонарам гаварыла пра тое, што цікавасць да народных рамёстваў відавочна вялікая: на сёння майстрамі раённага Дома рамёстваў асвоена 15 відаў рамёстваў, а некаторыя майстры ўзнавілі і авалодалі 18 відамі народных рамёстваў, што былі ў побыце нашых продкаў.











Некалькі незвычайную выставу падрыхтавала да вечарыны Надзея Іванеева-гэта вязаныя лялькі, сярод якіх казачныя персанажы: Змей-Гарыныч, Дзед і Баба, чарапаха, курыца з вялікоднымі яйкамі, сонейка, больш за два дзясяткі цудоўных персанажаў.

- А прычасцілa да гэтага мяне мая дачка - Крысціна, якая займаецца пляценнем лялек больш за тры гады, якую, у сваю чаргу, заахвоціла мая малодшая сястра Таццяна. У мяне двое ўнукаў, якія патрабаюць увагі, сама на пенсіі, але яшчэ працую, а ў любую вольную хвіліну я з задавальненнем саджуся, каб звязаць новага персанажа. Зараз гэта будзе Воўк і Заяц. Дома, - Надзея смяецца, - ужо цэлы звярынец.

На сваёй сустрэчы жанчыны не толькі дзяліліся сакрэтамі майстэрства, але і задаліся пытаннем: а чаму вязанню прысвечаны нават цэлы Сусветны дзень вязання? Цікавасць задаволіла кіраўнічка "Сучасніка" Святлана Генадзеўна Калеснікава. Аказваецца , мала хто ведаў, пра такія цікавыя факты, што:

- нарадзілася рукадзелле, аказваецца, нават не на поўначы, а ў спякотай Афрыцы, і гісторыя сцярджае, што вязанне прыдумалі арабы, а крыжаносцы прынеслі яго ў Еўропу;

- першым вязаным вырабам была рыбалоўная сетка;

- у Іспаніі знойдзена рукавіца, вырабленая ў 13 ст., з выявай на ей рэлігійных сімвалаў, бо ў тыя часы часы вязанне было шанаваным заняткам;

- вязанне - справа мужчын, жанчыны пралі ніткі, а за пруткі браўся кіраўнік сям'і;

- у вязальшчыкі набіралі адораных хлопчыкаў, якія вучыліся тры гады, а потым іх чакаў экзамен. І зусім няпросты: для заліку патрэбна было вырабіць - дыван памерам 1.5х2м, шапку, пару шкарпэтак, кашулю і жылетку. І якасць ацэньвала камісія. Цяжэй, чым здаць ЦТ. Шэсць год вучобы, і ты - майстар!

Такія сустрэчы даюць магчымасць сустрэч з цікавымі асобамі нашага раёна: народнымі майстрамі, паэтамі, краязнаўцамі, мастакамі, людзьмі, якія пішуць сёняшнія старонкі гісторыі сваёй маленькай радзімы, якая праз пэўны час будзе вывучаццца нашымі нашчадкамі.

А "Сучаснік", які амаль 30 год працуе пры раённай бібліятэцы і сабраў вакол сябе людзей розных узростаў і прафесій, кіруецца прынцыпам "Усё аддаў - і скарб набыў, што для сябе збярог - згубіў".

***Валянціна Болбат,***
*сяброўка клуба,*
*ТБМ, Верхнядзвінск.*

*На літаратурнай хвалі*

## Людміла Кебіч: *"Будзем сустракацца і надалей"*

У рамках чарговага пасяджэння літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты", якое праходзіла ў канферэнц-зале Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы, адбылася сустрэча членаў літаб'яднання з дэлегацыяй пісьменнікаў з Гародні: старшынёй Гарадзенскага абласнога аддзялення ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі" Людмілай Кебіч, намеснікам старшыні Дзмітрыем Радзівончыкам, дзіцячай пісьменніцай Ганнай Скаржынскай-Савіцкай. Пісьменнікі пазнаёмілі членаў "Суквецця" са сваёй творчасцю, са сваімі новымі кнігамі, якія выйшлі ў 2020-2021 гадах.

Дзмітрый Радзівончык расказаў пра сваю паэтычную кнігу "Река безбрежная", якую лічыць вяршыняй сваёй творчасці, а таксама пра кнігу крытычных артыкулаў "Навстречу попутному ветру". Ганна Скаржынская-Савіцкая азнаёміла са сваімі новымі кнігамі для дзяцей: "Маме я несу букетик", "А ў нас зорны час" (у гэтай кнізе ў даступнай і цікавай дзецям форме тлумачацца многія беларускія фразеалагізмы), "Сёма і адзінка". Дарэчы, ілюстрацыі да сваіх кніг Ганна Іосіфаўна малюе сама.

Адзін экзэмпляр кнігі Дзмітрыя Радзівончыка "Навстречу попутному ветру" і 6-ы нумар літаратурнага альманаха "На нёманскай хвалі" былі падораны гасцямі з Гародні лідскаму літаратурнаму аб'яднанню на памяць аб сустрэчы. Прадстаўленыя кнігі пісьменнікаў у час сустрэчы лідскія паэты маглі набыць, і многія скарысталіся гэтай магчымасцю (хтосьці набыў нават некалькі кніг). Выкарысталі паэты Лідчыны і магчымасць пачытаць свае вершы гасцям з абласнога цэнтра, на месцы атрымаць кансультацыю ад прафесійных творцаў.





Нягледзячы на пандэмію каранавіруса, гэтыя гады аказаліся плённымі для пісьменнікаў Гарадзеншчыны. Толькі за паўгода выйшла 19 аўтарскіх кніг членаў Гарадзенскага абласнога аддзялення СПБ. Сустрэч з чытачамі ў гэты перыяд было меней, але з вясны бягучага года яны пачалі праводзіцца часцей.

Яшчэ ў 2019 годзе ўбачыла свет кніга вершаў Людмілы Кебіч "Бэзавы дом", у якую ўвайшлі вершы пераважна пра радзіму, малую і вялікую, пра горад Гародню, пра дзяцінства паэтэсы. У другую прадстаўленую Людмілай Антонаўнай кнігу ўвайшлі такія вершаваныя формы, як трыялеты, тэрцыны, рандэлі. Азнаёміла паэтэса і з дзвюма сваімі новымі кнігамі для дзяцей: "У Марьяны сто фантазий" і "Про Алешку".

Гарадзенскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і літаб'яднанне "Суквецце" будуць працягваць супрацоўнічаць, і сустрэчы прадстаўнікоў аддзялення з паэтамі Лідчыны будуць перыядычна ладзіцца і надалей. Госці заклікалі лідскіх творцаў наведваць сайт СПБ, удзельнічаць у творчых конкурсах і праектах грамадскага аб'яднання, па магчымасці прыязджаць у Гародню на творчыя кансультацыі.

***Аляксей КРУПОВІЧ,***
***г. Ліда.***






## Ахвяраванні на ТБМ

1. Маскаленка - 20,00 р.
2. ФІО - 150,00 р.
3. Жлобіч І.В. - 30,00 р.
4. Красько Тацяна Мікал. - 10,00 р.
5. Замана Сергей Казіміравіч - 20,00 р.
6. Каржэўская Марыя Станісл. - 50,00 р.
7. Клімаў Кірыл Аляксандравіч - 10,00 р.
8. Іода Е.В. - 10,00 р.
9. Малочка А. М. - 20,00 р.
10. Курлянёва Анастасія Яўген. - 20,00 р.
11. Гайкеў Н.І. - 33,81 р.
12. Панкоў Ігар - 20,00 р.
13. Беражной - 50,00 р.
14. Каплунскі А.Р. - 300,00 р.
15. Юфераў Васіль - 10,00 р.
16. Казакоўскі С.А. - 50,00 р.
17. Лапкоўская - 30,00 р.
18. Гром В.Л. - 50,00 р.
19. Тумаш Вячаслаў Валер'евіч - 20,00 р.
20. Варанец Вадзім Леанідавіч - 3,00 р.
21. Іванова - 15,00 р.
22. Гаварушка О.М. - 10,00 р.
23. Анкуда Максім Алегавіч - 20,00 р.
24. Гулевіч - 50,00 р.
25. Шчарбінская Наталля Сяргеев. - 5,00 р.
26. Гарбачэўскі Дзяніс Юр'евіч - 20,00 р.
27. Жылко Юлія Юр'еўна - 20,00 р.
28. Шрубок - 70,00 р.
29. Петраш - 5,00 р.
30. Лук'янава Надзея Аляксееўна - 20,00 р.
31. Ананім - 200,00 р.
32. Карака Аляксандр Мікалаевіч - 15,00 р.
33. Ковас Эндрус Вячаслававіч - 100,00 р.
34. Шумко - 10,00 р.
35. Кароза Сяргей Міхайлавіч - 10,00 р.
36. Імховік Віктар - 20,00 р.
37. Бярновіч Д.І. - 20,00 р.
38. Хвалько Тацяна Аляксандр. - 15,00 р.
39. Гурын А.В. - 20,00 р.
40. Жыдаль Дзяніс Уладзіміgraв. - 250,00 р.
41. Курыльчык - 10,00 р.
42. Халасцякоў М.В. - 50,00 р.
43. Грышкова Ю. С. - 10,00 р.
44. Сташэўскі Алексей Сергеев. - 20,00 р.
45. Шуцько Вікторыя Іванаўна - 6,00 р.
46. Грынкевіч Вольга Валер'еўна - 10,00 р.
47. Ражок Сяргей - 20,00 р.
48. Юнчыц Сяргей Рыгоравіч - 200,00 р.
49. Філіпчык А.В. - 30,00 р.
50. Маслёнак Тацяна Васільеўн. - 10,00 р.
51. Яноўскі Ігар - 100,00 р.
52. Ільініч Наталля Валянцінаўна - 20,00 р.
53. Чаркас Марыя Ульянаўна - 10,00 р.
54. Ніканорава Ірына Уладзімір. - 5,00 р.
55. Галадко Марыя Мікалаеўна - 100,00 р.
56. Дамарацкі Аляксандр - 5,00 р.
57. Нікалайчык О.П. - 20,00 р.
58. Саўчук А.І. - 25,00 р.
59. Прудывус - 100,00 р.
60. Прыдня Н.В. - 10,00 р.
61. Лапушкін Н.С. - 25,00 р.
62. Лісіцкі Міхаіл Віктаравіч - 21,00 р.
63. Падбярэзская Зінаіда - 10,00 р.
64. Памялёнак Кацярына Валер. - 10,00 р.
65. Міхайлюк Цімафей Валер'ев. - 20,00 р.
66. Лялік М.І. - 70,00 р.
67. Тамільчык В.А. - 20,00 р.
68. Валькоў Павел Сяргеевіч - 5,00 р.
69. Вярцінская Святлана - 25,00 р.
70. Шкуткова Наталля Георгіеўна - 4,21 р.
71. Пяткевіч М.М. - 14,00 р.
72. Мікіціч - 30,00 р.
73. Хамянкоў Аляксандр Рыгор. - 10,00 р.
74. Лобзава Т.В. - 20,00 р.
75. Кураленя Е.Ю. - 10,00 р.
76. Калымага А. А. - 7,00 р.
77. Сысоеў - 100,00 р.
78. Карачун Дзмітрый Віктарав. - 5,00 р.
79. Жураўлёва В.В. - 20,00 р.
80. Амяльковіч А.М. - 50,00 р.
81. Ганчарык Надзея Сяргееўна - 15,00 р.
82. Герман Раман Раманавіч - 30,00 р.
83. Касцяневіч Ягор Пятровіч - 50,00 р.
84. ТАМ - 5,00 р.
85. Аляксандра - 10,00 р.
86. Паліеў Аляксандр Мікалаевіч - 10,00 р.
87. Грыб Уладзімір Уладзімір. - 5,00 р.
88. Громава Алена Мікалаеўна - 2,00 р.
89. Турбін П.А. - 10,00 р.
90. Клімук Уладзімір - 200,00 р.
91. Жарнасек Алексей Мікалаев. - 50,00 р.
92. Васін Анатоль Валер'евіч - 100,00 р.
93. б/н - 50,00 р.
94. Сачок Н.П. - 200,00 р.
95. Рабаў Д.В. - 50,00 р.
96. Камлюк Антон Пятровіч - 20,00 р.
97. Цыркун Андрэй Мікалаевіч - 10,00 р.
98. Мацвеева Тацяна Віктараўн. - 20,00 р.
99. Жалюк С. М. - 10,00 р.
100. Шкут Яўген Аляксандравіч - 5,00 р.
101. Маклакоў В Н - 10,00 р.
102. Амбражэйчык Кірыл - 13,81 р.
103. Базылёў Віталь Анатольевіч - 7,42 р.
104. Шычко Дзяніс Мікалаевіч - 20,00 р.
105. Верабей С. - 100,00 р.
106. Чаркас І.А. - 50,00 р.
107. Сцяпанаў В.А. - 25,00 р.
108. б/н - 20,00 р.
109. Грыгарэнка А С - 15,00 р.
110. Буракоў Уладзімір Валер - 100,00 р.
111. б/н - 10,00 р.
112. Жызнеўскі Аркадзь Вячасл. - 10,00 р.
113. Хомчанка Т. - 50,00 р.
114. Жукавец Кацярына Уладзім. - 50,00 р.
115. Сычук - 10,00 р.
116. Жук - 50,00 р.
117. Кенька Андрэй Ігаравіч - 10,00 р.
118. Кітурка Юрый Віктаравіч - 30,00 р.
119. Махневіч Наталля - 4,00 р.
120. Мазур І.А. - 30,00 р.
121. Статкевіч А.А. - 10,00 р.
122. Старавойтаў Мікалай - 25,00 р.
123. Лебедзь В.В. - 10,00 р.
124. Шаблоўскі Канстанцін - 20,00 р.
125. Валава І. А. - 5,00 р.
126. Вішнеўскі Уладзімір Уладзім. - 20,00 р.
127. Новікаў Руслан Сяргеевіч - 100,00 р.
128. Юшкевіч О.А. - 50,00 р.
129. Рудзянкова - 20,00 р.
130. Мажэйка С.В. - 50,00 р.
131. Лагацкі А.В. - 10,00 р.
132. Лабюк - 20,00 р.
133. Клімчук Іван Іванавіч - 30,00 р.
134. Аляксандраў - 40,00 р.
135. Алег - 20,00 р.
136. Выскварка Т. С. - 20,00 р.
137. Ганчар Павел Анатольевіч - 500,00 р.
138. Ярмалінская Любоў Андр. - 10,00 р.
139. Маскалёў Арцём Анатол. - 30,00 р.
140. Кункевіч Ганна Васільевна - 10,00 р.
141. Садоўская Анастасія Яўген. - 10,00 р.
142. Роўкач Наталля - 10,00 р.
143. Украінцава - 10,00 р.
144. Календа Алексей Уладзімір. - 10,00 р.
145. Чалевіч Алена Валянцін. - 20,00 р.
146. Фамілія - 10,00 г.
147. - 100,00
148. Харланчук Міхаіл Уладзімір. - 10,00 р.
149. Магілёўцава Вольга Леанід. - 10,00 р.
150. Жукавец Павел Анатольевіч - 10,00 р.

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № BY84BLBB30150100129705001001 у Аддзяленні № 539 ААТ "Белінвестбанка" IBAN - BLBBBY2X (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

*Навіны Германіі*

# У Германіі растуць выдаткі дзяржавы на выплаты сацыяльнай дапамогі




*Пенсіянеры ў Гесене на фоне горнага масіва Таўнус*

Найбольшую суму германская дзяржава выдзяляе на фінансаванне дапамог па базавым забеспячэнні ў старасці і пры скарачэнні заробку.

У апошнія гады ў Германіі ўвесь час раслі выдаткі дзяржавы на выплаты сацыяльнай дапамогі грамадзянам. Гэта вынікае з адказу ўрада ФРГ на запыт фракцыі Левай партыі ў бундэстазе, апублікаванага раніцай у нядзелю, 20 чэрвеня.

Паводле дакумента, у 2005 годзе агульныя выдаткі бюджэту на выплаты сацдапамогі складалі 7,5 млрд еўра. Праз дзесяць гадоў, у 2015 годзе, яны выраслі да 12,1 млрд еўра, а ў 2019 годзе дасягнулі 13,5 млрд еўра.

**Якую сацыяльную дапамогу атрымліваюць немцы**

Паказваецца, што ў гэтую суму ўваходзяць такія дапамогі, як дапамога ў забеспячэнні сродкаў для існавання, базавае матэрыяльнае забеспячэнне ў старасці і пры скарачэнні заробку, дапамога ў аплаце паслуг аховы здароўя, догляду па хваробе ці ў пажылым узросце, а таксама дапамога на этапе пераадолення сацыяльных цяжкасцяў і ў іншых цяжкіх жыццёвых сітуацыях. Больш за ўсё грошай у 2019 годзе было выдзелена з дзяржбюджэту на фінансаванне дапамогаў па базавым забеспячэнні ў старасці і пры скарачэнні заробку: 6,9 млрд еўра.

**Левая партыя: "Рост выдаткаў азначае рост ліку людзей, якія патрабуюць дапамогі"**

Аўтарам запыту да ўрада ФРГ выступіла старшыня камітэта па справах сям'і фракцыі левых у бундэстазе Забіне Цымерман (Sabine Zimmermann).

Каментуючы атрыманыя дадзеныя, яна адзначыла, што ўсё больш людзей у Гекрманіі становяцца атрымальнікамі сацыяльнай дапамогі. Пенсійнае страхаванне і страхоўка для фінансавання догляду па старасці і хваробе больш не могуць гарантаваць сацыяльную абароненасць, заявіла палітык.

***DW.***

# Вянок і кветкі Міхалу Валовічу



У нядзелю, 20 чэрвеня, сябры Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл наведалі могілкі ў вёсцы Парэчча Слонімскага раёна і ўсклалі вянок і кветкі да мемарыяльнага знака Міхала Валовіча (1806-1833) і яго 12 паплечнікаў-паўстанцаў супраць Расейскай імперыі 1833 года. На вянку напісаны словы: "Мужнаму Міхалу Валовічу ад землякоў". Пасля ўскладання вянка і кветак, слонімцы хвілінай маўчання ўшанавалі іх светлую памяць. А за тыдзень да гэтага мерапрыемства яны ўпарадкавалі тэрыторыю каля мемарыяльнага знака і пафарбавалі пліты. 18 чэрвеня Міхалу Валовічу споўнілася 215 гадоў з дня нараджэння.

*Мікалай Мароз,*
*Беларускае Радыё Рацыя.*
*Фота аўтара.*





*Зоф'я Кавалеўская*

# Гісторыя Лідскага паўстання: успаміны пра Людвіка Нарбута*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Нязломным пастаўшчыком добраахвотнікаў у аддзел быў Стэфан Вільбік, шляхціц - вясковец з Радунскага філіяла паўстанцаў. Як музыка са скрыпачкай у руках граў на вячорках у ваколіцах Начы, Эйшышак і Радуні і пацыху вербаваў людзей у аддзел. Заўсёды ведаў месцазнаходжанне лагера і раз-пораз прыводзіў новых паўстанцаў. Аднаго разу, калі Вільбік з невялікай жменькай людзей спяшаўся ў лагер, сяляне з вёскі Такароўшчына далі яму знаць, што Нарбут адышоў на некалькі міль далей. Не вагаючыся, Вільбік пусціўся са сваімі людзьмі ўслед. Былі ўжо даволі блізка, калі пачулі стрэлы. Рота жаўнераў абстрэльвала лес дзе знаходзіліся паўстанцы. Шалёная куля трапіла ў аднаго з добраахвотнікаў Вільбіка, селяніна Карчмаера, які забіты паваліўся на месцы. Вільбіку ўдалося з астатнімі людзьмі далучыцца да лагера ,дзе ніхто з паўстанцаў не быў паранены або яшчэ як пашкоджаны.

З-пад Зубрава Нарбут перайшоў у Лакштуцянскія лясы, дзе паблізу вёскі Кавалькі ў праўдную нядзелю - 8-га красавіка адбылася адна з найвялікшых сутычак якая пакрыла славай яго імя.

Ён меў 200-250 чалавек, калі ў Лакштуцях яго аддзел акружылі з двух бакоў вялікія фарміраванні маскоўскага войска. Акрамя конніцы, для захопу былі высланы сем рот пяхоты і аддзел лёгкай артылерыі. Войска, якое месцілася ў Начы, раздзялілася на дзве часткі, адна павінна была атакаваць Нарбута з боку вёскі Кавалькі, другая - з вёскі Паддуб'е.

Першая частка, якая ішла проста, адразу наткнулася на паўстанцаў. Пачалася страляніна. Другая затрымалася у Паддуб'і, дзе сусед Кандрата селянін Мацкевіч здрадзіў яму, данёсшы маскалям, што Кандрат спрыяе Нарбуту і папярэджвае аб руху войска. Кандрата арыштавалі, а вёску прызначылі знішчыць. Аднак наперад маскоўскія жаўнеры хацелі пагуляць: пачалі есці, піць і рабаваць, і тады яны выразна пачулі стрэлы з-пад Кавалькаў. Афіцэры хутка адклікалі жаўнераў і пагналі іх пад Кавалькі. Гэта ўратавала паўстанцаў. Расійскі атрад, страціўшы многа часу ў Паддуб'і, не пайшоў згодна плану да вёскі Грыбошы, дзе павінен быў перакрыць паўстанцам магчымасць для адступлення. Замест выканання плана атрад павярнуў да бліжэйшай дарогі. Менавіта гэтая акалічнасць дазволіла адалець аддзелу Нарбута. Пасля некалькіх гадзін бітвы Нарбут зручным манеўрам вывеў свой аддзел з пасткі і правёў праз тыя самыя Грыбошы, якія ператварыліся ў адзіна свабодны праход. Прайшоўшы паўночным берагам возера Дэмбля, пераправіўся цераз раку Улу і паглыбіўся ў лясы Гарадзенскай пушчы. Там над ракой Котрай недалёка ад Зубрава, якое апекавалася атрадам і забяспечвала жыццёва важныя патрэбы, стаў лагерам.

За гэтую ўстойлівую павагу і падтрымку, расійцы пазней зруйнавалі вёску разам з зямлёй, а жыхароў выслалі на выгнанне ў Сібір.

Гераічная бітва пад Кавалькамі яшчэ раз паказала рэдкі вайсковы талент Нарбута, які з невялікім аддзелам зваяваў непрыяцеля большага па колькасці ў некалькі разоў і выслізнуў з яго рук. Гэта не была перамога, а толькі пераможны манеўр, які звярнуў увагу не толькі сваіх, але і замежнікаў. Гэта бітва вядомая як Лакштуцянская, але павінна была называцца бітвай пад Кавалькамі, таму што назоў вёскі выразна пазначаны на ўсіх большых мапах, у той час як скарбовы лес у Лакштуцях не фігуруе на іх зусім. Кожны, хто праглядвае мапу Лідскага павета і знаходзіць на ёй Кавалькі, прыпамінае, што менавіта гэта месца было заліта нашай крывёй у 1863 годзе.

У № 40 "Кур'ера віленскага" таго часу чытаем: *"Банда Нарбута, рассеяная капітанам Цімафеевым, 30 сакавіка вырушыла да вёскі Зубрава. 31 сакавіка ў пагоню з маёнтка Новы Двор да мястэчка Сабакінцы выйшаў аддзел Цімафеева. Па прычыне блытаных звестак было немагчыма даведацца пра банду Нарбута. І толькі 3-га красавіка атрымалі дакладную інфармацыю: банда знаходзіцца зноў каля вёскі Дубічы за Новым Дваром, куды і вырушыў капітан Цімафееў."*

З другога боку на Нарбута ішоў палкоўнік Алхазаў і палкоўнік Вернер, высланы з Гародні з 3-мя ротамі пяхоты.

"Кур'ер віленскі" ад 8-га красавіка надрукаваў пра бітву ў Лакштуцянах наступнае: *"... на след паўстанцаў патрапілі каля вёскі Руда ў лясных балотах, далей над возерам Дэмбля каля вёскі Кавалькі. Бітва доўжылася каля шасці гадзін. Вечарам каля васьмі паўстанцы кінуліся да вёскі Грыбошы і Бручаніцы. Узялі ў палон 4 зняволеных, згодна з іх паказаннямі ў атрадзе Нарбута было каля 600 добра ўзброеных людзей. Між іншымі забіты ад'ютант начальніка і ксёндз Гарбачэўскі".*

Падобна на тое, што справа пад Кавалькамі была гарачай і для расійцаў, як скора дзяржаўная прэса назвала яе шматгадзіннай бітвай. Аднак памылковай была звестка пра колькасць аддзела Нарбута, узбраенне і смерць ксяндза Гарбачэўскага. Насамрэч там быў забіты Уладзіслаў Навіцкі, якога Віленскі аддзел Народнага ўрада адразу хацеў паставіць начальнікам узброеных сіл Лідскага павета. У гэтай бітве былі забіты Міхалоўскі і малады Войцех Нарбут, сакратар павятовага суда ў Лідзе і крэўны камандзіра. Калі маскалі, абдзіраючы адзенне з трупаў, знайшлі ў забітага воіна дакумент з прозвішчам Нарбут, дык моцным "Ура" віталі здабычу. Адразу вырашылі, што палеглы - кіраўнік атрада і вялікая радасць была у маскоўскай роты. Усіх забітых пахавалі разам пры касцёле ў Начы. Сярод забітых расійцаў быў і афіцэр.

Ксёндз Стэфан Гарбачэўскі - вікарый з Эйшышак атрымаў лёгкае раненне, але адпраўляў набажэнствы, асвячаў косы паўстанцам, даглядаў параненых, прычашчаў паміраючых. Ніколі не страляў. Калі падчас першай сутычкі з ворагам Нарбут хацеў, каб першы стрэл быў з рукі ксяндза, адхіліў яго прапанову, цвёрда прамовіўшы: *"Не прыстала мне служыцы Божаму забіваць людзей. Страляйце самі. Я вам іншымі паслугамі дапамагаць буду".* І выконваў свае абяцанні да канца.

"Кур'ер Віленскі" ад 18-га красавіка пісаў наступнае: *"Аддзелы Алхазава, Цімафеева і Вернера аб'яднаўшыся разам, акружылі атрад Нарбута з трох бакоў, але Нарбут зручна выслізнуў з атачэння, заціраючы свае сляды адзеннем ці ідучы задам-наперад. Яго аддзел ішоў паўночным бокам возера Дэмблі і некалькі разоў перапраўляўся праз раку Улу. Загінула каля 30 паўстанцаў. Акрамя пары стрэльб і некалькіх вазоў з катламі другой здабычы не было".*

"Кур'ер Віленскі" прыпамінае наступнае аб дробнай сутычцы над ракой Улай на ўскрайку леса паміж разасланымі выведвальнікамі і новай партыяй паўстанцаў пад кіраўніцтвам Чудоўскага. Напэўна гэта быў невялічкі аддзел Нарбута, высланы дзеля збіцця са шляху непрыяцеля. Бітва пад Кавалькамі становіцца адметнай кропкай у кампаніі Нарбута. Прыгожы, слаўны дзень Лідскага паўстання. Майстэрскі прарваўшы кола непрыяцеля, Нарбут паглыбіўся ў Гарадзенскую пушчу. Людзі глядзелі на правадыра, як на паўбога, і стваралі аб ім легенды. Яго імя было ва ўсіх на вуснах. Гэта віхура распаліла рух, які драмаў у Лідскім павеце. Да абозу Нарбута далучылася трохі свежых сіл, сярод якіх былі двое братоў Бразоўскіх, Губарэвіч, Паплаўскі і іншыя.

Аднойчы над распаленым вогнішчам пад вялікай сасной, зляцеў з яе чорны крук і пранізліва закаркаў над галовамі паўстанцаў. Многія палічылі гэта за злы знак.

Праз кароткі час абоз вырушыў да вёскі Ганэлькі, фальварка Маргевічаў, адкуль прыйшло паведамленне аб тым, што да пушчы высланы значныя маскоўскія сілы з мэтай выцясніць з яе паўстанцаў.

Нарбут, папярэджаны аб маршруце непрыяцеля, вырашыў зрабіць засаду каля Раманава. Аднак у тым накірунку каля Сабакінцаў, маёнтка Кіпрыяна Шалевіча, аказаўся маскоўскі атрад. Хтосьці прапанаваў павесіць тамтэйшага папа, які вызначаўся шпіянажам, але Нарбут не дазволіў, бо не жадаў перакладаць адказнасць на Шалевіча, годнага і высакароднага чалавека.

Так добра задуманая засада ў Раманове, якая магла кардынальна змяніць лёс лідскага паўстання, не ўдалася. Адзін з паўстанцаў, хоць і было яму сурова загадана трымацца ціха, падчас чысткі зброі неасцярожна стрэліў і насцярожыў ворага.

У той колькасці людзей, з якіх складаўся аддзел Нарбута, павінны былі мецца недысцыплінаваныя элементы, якія сваімі паводзінамі не раз псавалі добра задуманыя планы камандзіра. Пасля няўдалай засады неабходна было мяняць месца стаянкі і шукаць новы, больш бяспечны пункт. Нарбут накіраваўся да Дубічаў, але яшчэ нейкі час манеўраваў па лясах, каб заблытаць непрыяцеля.

Аднойчы здарылася так, што адзін з паўстанцаў па прозвішчы Раманоўскі, выйшаў з лесу і сустрэўся нос у нос з расійскім афіцэрам, які відочна шпегаваў за паўстанцамі і меў у суправаджэнні селяніна з Дубічаў. Абодва, сустрэўшыся, узаемна кінуліся ў процілеглыя бакі навуцёкі. Калі пра гэта даведаўся Нарбут, то з незадавальненнем сказаў: "Дарэмна носіш зброю, мог яе і ўжыць" [29].

У аддзеле тым часам некаторыя паўстанцы перашэптваліся: "Крук! Злы прадвеснік! няшчасце прадказвае!" Гэта непакоіла менавіта прастакоў, якія верылі ў забабоны.

І зноў Нарбут вырашыў спыніцца ў недаступным месцы. Дзеля гэтага выбраў лясісты ўзгорак паміж Забалаццю і Дубічамі пасярод непраходняй, як здавалася, багністай мясцовасці над возерам. Стаў там лагерам, маючы вузкі сухі пярэсмык да пушчы. Паблізу ўзносіўся стары дубіцкі касцёл і такая ж плябанія. Месца выглядала як бяспечнае і цяжкадаступнае. Аддзел налічваў у той час 13 дзясяткаў, або 130 чалавек.

Кіраўнік выслаў свайго брата Баляслава да Віславуха, камандзіра гарадзенскага атрада, ад якога спадзяваўся атрымаць дапамогу, якая б дала магчымасць пашырыць дзейнасць.

### Раздзел VIII

*Народны рух. Заціша каля Ліды. Альберт Лясковіч. Прызнанне Бальтазара Калясінскага. Рэліз. Агульны ўздым. Публічная ахвярнасць. Петрыкоўскі і яго заступні.*

Была ўжо палова красавіка, час які быў больш-менш вызначаны Віленскім Народным урадам як пачатак агульнага вызвольнага руху ва ўсіх ваяводствах і паветах. У большых або меншых памерах паўстанне пачалося паўсюдна, паўстанчы рух ахапіў Жмудзь.

У Лідскім павеце адзіным дзейным аддзелам было фарміраванне Нарбута, а вызвольны рух найбольш праявіўся пасля бітвы пад Кавалькамі. Бальтазар Калясінскі падбухторваў гміны, бо меў некалькі прыведзеных да прысягі войтаў. У ваколіцах пачалі з'яўляцца розныя карэты з такімі таямнічымі постацямі як ксёндз Робак[30]. Навіны аб поспехах Нарбута панавалі пад кожнай страхой, будзілі ад сну, заахвочвалі да дзеянняў. Моладзь шляхецкага паходжання аб'ядноўвалася і збліжалася з сялянамі. Былі распрацаваны праекты стварэння Лідскага атрада і яго далучэння да Нарбута. Цэнтрам руху была Ліда і яе ваколіцы, бракавала толькі галавы, якая б магла гэты рух скіраваць на практычную працу, і рукі, якая б моцна трымала стырно кіравання.

Арганізацыйны камітэт, які ўжо знаходзіўся пад пільным наглядам расійскай улады, дзейнічаў слаба. Пачаліся арышты. Пайшоў пад ключ і Бальтазар Калясінскі. І хоць яго хутка выпусцілі, аднак больш працаваць сярод народа ён не мог.

З-за паказанняў маладога Альберта Лясковіча з Кір'янаўцаў былі арыштаваныя і іншыя землеўладальнікі. Лясковіча арыштавалі з-за нейкіх легкадумных словаў у мястэчку Беніца; арыштоўваў яго афіцэр этаповай камендатуры Свінавухаў і тутэйшы ключвойт[31].

Выпадковая ў вязніцы Лясковіч апынуўся разам з нейкім Адамам Сасёнкам, які падгаворваў маладзёна да складання фальшывага прызнання і ўключэння ў яго як мага большай колькасці асоб, пераконваючы, што гэтак справа пойдзе лепш і хутчэй скончыцца нічым.

*(Працяг у наступным нумары.)*

* Zofja Kowalewska. Dzieje powstania lidzkiego: wspomnienie o Ludwiku Narbucie. Wilno, 1934. Зоф'я Кавалеўская. Гісторыя Лідскага паўстання: успаміны пра Людвіка Нарбута. Вільня. 1934 г. Перадрук з "Дзённіка Віленскага". Пераклад і каментары Галіны Лаўрэш. Рэдагаванне і каментары Леаніда Лаўрэша.

[29] Па словах Паплаўскага з атрада Нарбута.

[30] Ксёндз Робак (Яцак Сапліца) персанаж паэмы Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш". У паўстанні 1863 г. пад такой мянушкай дзейнічаў ксёндз з Ковенскага павета Антон Мацкевіч. Павешаны ў Коўне 16 снежня 1863 г. - *Л. Л.*

[31] Ключвойт - выбраны прадстаўнік ад жыхароў усяго ключа. Ключ - вялікі двор, які дзяліўся на фальваркі ці засценкі. - заўвага перакладчыцы.

*Гісторыя Магілёшчыны*

# Магілёў. Замкавая гара, або "Магіла Льва"

Старажытны Магілёў мае прыгожую легенду, аб паходжанні назвы горада. Калісьці сярод непраходных лясных Дняпроўскіх кручаў жыў разбойнік - асілак Машэка, над магілай якога насыпалі вялізны курган, які празвалі "Магілай Льва."Існуе некалькі варыянтаў трактовак гэтай гісторыі. Многія літаратары прысвяцілі нашаму Машэку свае творы. Напрыклад, першы Народны паэт Беларусі Янка Купала напісаў у 1913 годзе паэму "Магіла льва", і вось так гучыць урывак паэмы, прысвечаны магілёўскай Замкавай гары:

*"Яго высокую магілу -*
*Дзе лес ды вецер панаваў -*
*Знаць, што вялікую меў сілу,*
*"Магілай Льва" народ назваў.*
*Над ёю з часам дрэвы палі,*
*І горад вырас, як з зямлі,*
*Яго Магілевам назвалі,*
*Бо йнакш прыдумаць не маглі."*

А ў 1971 годзе на кінастудыі "Беларусьфільм" была знята мастацкая кінастужка "Магіла Льва", дзе ролю Машэкі выконваў адзін з самых вядомых савецкіх кінаакцёраў Алег Відаў.





радамі драўляных гародняў.

У сярэдзіне 13 стагоддзя драўляныя ўмацаванні на Замкавай гары былі знішчаны, бо ў культурным слоі гэтага часу прасочваюцца сляды магутнага пажару і маюцца знаходкі мангольскіх наканечнікаў стрэл.

Ужо ў 1407 годзе ў магілёўскім замку падпісваецца гандлёвая дамова паміж Полацкам і Рыгай, і гэтую дамову падпісвае не хто іншы, а кіраўнік Вялікага Княства Літоўскага сам князь Вітаўт Вялікі.

Пачынаючы са студзеня 1503 года роль Жыгімонт І у 1513 годзе перадае Магілёўскі замак Яну Шчыту. Затым наступнымі намеснікамі і ўладальнікамі замка былі Юрый Зяноўевіч і Ян Якубавіч Неміровіч. А паколькі пасля вайны 1500 - 1503 гадоў паміж ВКЛ і царствам Маскоўскім была страчана вялікая тэрыторыя на ўсходзе краіны разам са шматлікімі гарадамі, і ў дадатак у 1514 годзе страчаны Смаленск, ва ўмовах узрастаўшай пагрозы з боку Маскоўскай дзяржавы паўстала пытанне аб надзейнасці і трываласці Магілёўскага замка, які ў гэты час выконваў ролю валаснога цэнтра.

Уладальнікам замка з 1520 года быў князь Васіль Саламярэцкі, і за той час, калі ён быў магілёўскім намеснікам, у горадзе пачалі будаваць новы замак, які завяршылі к 1526 году. Пры будаўніцтве "болшего замка" ў 1526 годзе папярэднія старажытныя пабудовы былі засыпаны мятровым слоем гліны. Збудаваны вялікі вал, які ў сваёй аснове дасягаў больш за 16 метраў у шырыню і 5 метраў у вышыню. Насып зрабілі са шчыльнай чырвонай гліны і буйназярністага пяску. Гліняны схіл вала для трываласці абпалілі да цэглападобнага стану і пабудавалі на яго грэбні драўляныя сцены і вежы. У спалучэнні з абарончым рвом, які аддзяляў замак ад горада і 25-цімятровыя стромкія схілы гары - увесь комплекс замка быў магутным вузлом абароны ад ворагаў. Згодна з загадам караля Жыгімонта Аўгуста ад 1561 года жыхары горада былі абавязаны замак і *"паркан местскій оправовати і перекоп около замку і около паркану местского копаті, выправуючы з домов своіх к той работе каждый протів себе чергою".*

Вялікія ваенна-інжынерныя работы разгарнуліся ў Магілёве ў 1561 годзе - будаваўліся гарадскі вал, сцены і вежы. А напярэдадні Лівонскай вайны пачалі перабудоўваць і замак. У гэты час у Магілёве

Магілёўскі замак быў заснаваны пры ўпадзенні рачулкі Дубравенкі ў Дняпро. І вось тут, на гары Магіла, якая ўзвышаецца над дзвюма рэкамі было вельмі зручна будаваць сярэднявечны горад. Як дакладна выглядалі першыя ўмацаванні Магілёва, не вядома, але дзякуючы археалагічным даследаванням, якія праводзілі Е. Раманаў, І. Іонэ, М. Ткачоў, З. Яцкевіч і І. Марзалюк устаноўлена, што ў 10 - 11 стагоддзях на гары "Магіла" былі пастаўлены першыя ўмацаванні. Перад іх будаўніцтвам было распалена рытуальнае вогнішча. З напольнага боку паўночная частка гарадзішча першапачаткова была ўмацавана двума

гаспаданяй замка становіцца вялікая княгіня Алена Іванаўна, жонка вялікаа князя літоўскага Аляксандра, якой быў падараваны *"...замок могилевский, над рекой Днепром расположенный, со всякими дистриктами, то есть волостями к замку принадлежащими, с людьми с их службами..."*, дзе ад яе імя кіраваў князь Мацвей. Пасля смерці княгіні ка-






была ўласная артылерыя, якая разам з пушкарамі ўтрымлівалася яшчэ з часоў Жыгімонта І з пачатку 16 стагоддзя за кошт гарадскіх вагаў з "важчего". Згодна з Магдэбургскім прывілеем 1577 года *"водле давнего звычаю важчее за мещанами"*, гараджане ўтрымлівалі ў замку адзінаццаць пушкароў. У снежні 1595 года казакі Севярына Налівайкі разрабавалі горад, спалілі і замкавыя ўмацаванні.

*(Працяг будзе.)*

***Алег Дзьячкоў.***
*Магілёў.*

Фота: 1. Князь Вітаўт Вялікі.
2. Кадр з фільма "Магіла льва."
3. Макет замка на Замкавай гары. Скульптар Андрэй Вераб'ёў.
4. Магілёўскі замак на гравюры 18 ст.

*Гісторыя Магілёўшчыны*

# Гарачы чэрвень у Магілёве

З пачаткам лета актывізавалася дзейнасць будаўнічых арганізацый у нашым старажытным горадзе. Па Пажарным завулку каля дома нумар 7 у ахоўнай зоне гістарычнага цэнтра праводзяцца земляныя працы. І, на вялікі жаль, работы, мабыць вядуцца без археалагічнага нагляду. Па меншай меры, калі я патэлефанаваў аднаму з археолагаў з МДУ імя А. Куляшова, то мне паведамілі, што пра такія земляныя работы ім нічога невядома. Каля катлавана, які выкапаны недзе на метр у глыбіню, знойдзенна шмат цэглы, кафлі, посуду, ёсць металічныя вырабы…. Валанцёры, аматары даўніны на чале з Аляксеем Бацюковымназбіралі безліч гістарычных артэфактаў.



На цэнтральнай вуліцы Першамайскай, дом 60 А, зносіцца дарэвалюцыйны будынак пачатку 20 стагоддзя . На драўлянай хаце прыгожы разны дэкор, адмысловы ганак з дзвярамі, цікавая кафельная печ. Пайшлі з сябрам, пафоткалі цікавосткі інтэр'еру, пагаманілі з вартаўніком і даведаліся, якая аганізацыя займаецца зносам будынка.





Патэлефанавалі ў абласны краязнаўчы музей імя Е. Раманава і дамаўляемся, каб яны прынялі ў фонды музея элементы драўлянага дэкору са старажытнага збудавання. Зараз шукаем валанцёраў для фізічнай працы і грузавы транспарт, бо, каб разабраць ганак і зняць франтон - для гэтага трэба прыкласці вялікія намаганні.

***Алег Дзьячкоў.***
*Магілёў.*

На фота Я. Буланькова і А. Бацюкова:
1. Гістарычныя артэфакты з Пажарнага завулка.
2. Драўляны будынак перад зносам.

# Дзейнасць Лідскай друкарні вачыма школьнікаў

Кожны чалавек у паўсядзённым жыцці сустракаецца з газетамі, кнігамі, буклетамі, бланкамі, часопісамі, этыкеткамі і іншай друкаванай прадукцыяй. Нам нават немагчыма ўявіць наша сучаснае жыццё без усяго гэтага. А вось дзе і як з'яўляюцца гэтыя рэчы, можна даведацца толькі наведаўшы паліграфічнае прадпрыемства. Лідскім школьнікам у гэтым плане пашчасціла: у горадзе на працягу амаль 80 гадоў працуе Лідская друкарня.



У рамках рэгіянальнага праекта "#Эканоміка. Асоба. Будучыня" навучэнцы 8 Б класа 11 школы вырашылі асабіста пазнаёміцца з дзейнасцю прадпрыемства. На экскурсію мы адправіліся пасля абеду. І гэта не выпадкова: менавіта ў гэты час вядзецца раздрукоўка газет.

Каля будынка друкарні нас сустрэў дырэктар Мікалай Мікалаевіч Пякарскі, які на час стаў нашым экскурсаводам. На пачатку



экскурсіі нашу ўвагу звярнулі на тое, што будынак, перад якім мы знаходзімся, уключаны ў спіс гісгарычна-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь. Пабудаваны ён у сярэдзіне 19 стагоддзя. Амаль на працягу 100 гадоў тут размяшчалася гарадская турма. У 1947-1951 гг. тут размяшчалася працоўная дзіцячая калонія для малагадовых злачынцаў. І толькі ў 1963 годзе пасля рэканструкцыі будынак быў перададзены Лідскай друкарні, якая пачала працу адразу пасля вызвалення горада ў 1944 годзе і размяшчалася да гэтага ў іншым будынку.

Пасля знаёмства з гісторыяй друкарні школьнікаў запрасілі наведаць вытворчыя памяшканні. У брашуровачным цэху дзеці з захапленнем разглядалі швейную машыну, брашуратар. Тут ім расказалі і паказалі, як праходзіць праца над выдавецтвам кнігі "Праваслаўныя храмы Лідчыны: гісторыя і сучаснасць", аўтарам якой з'яўляецца іх класны кіраўнік.

Затым яны пачулі пра спецыфіку працы аператара электроннага набору і вёрсткі. Убачылі, як з вялікіх рулонаў паперы наразаюць лісты патрэбнага фармату. І ўсё ж школьнікам не цярпелася паглядзець самы важны працэс -



друк газет. У цэх праходзілі групамі. Шум, пах друкарскай фарбы - праца кіпела! І вось на канвееры новенькія асобнікі "Перамогі" (у гэты час ішоў друк дзятлаўскай раённай газеты).

Было вельмі шумна. "Як цяжка тут працаваць..." - перагаворваліся ўражаныя школьнікі. Цяпер яны атрымалі ўяўленне пра тое, як нараджаюцца газеты і кнігі.

Адказваючы на пытанні, Мікалай Мікалаевіч расказаў, што ў друкарні друкуюцца не толькі газеты і кнігі, але і брашуры, буклеты, граматы, дыпломы, налепкі, этыкеткі, календары і інш. Сёння ў друкарні працуюць 15 чалавек, гэта людзі розных прафесій: друкар, аператары электроннага набору і вёрсткі, фальцоўшчык і іншыя. Пачулі вучні і інфармацыю, дзе сёння можна атрымаць спецыяльнасці, каб у будучым мець магчымасць працаваць ў друкарні.

Экскурсія стала вельмі пазнавальнай. Дзеці ўбачылі, які працаёмкі шлях ад задумкі да свайго чытача праходзіць кожны нумар газеты і выданне кнігі. І зразумелі: звычайныя газеты і кнігі, не такія простыя, як здаюцца на першы пагляд.

Школьнікі 11 лідскай школы выказваюць падзяку за цікавую і пазнавальную экскурсію дырэктару Лідскай друкарні Мікалаю Мікалаевічу Пякарскаму.

*Наталля Анашкевіч,*
*класны кіраўнік 8Б класа сярэдняй школы № 11 г. Ліды.*

# Цікавая кніга Стасі Наркевіч




Набыў у сталічнай кнігарні кніжку з вельмі прываблівай назвай "Прывідаў пярсцёнак", якая пабачыла свет у выдавецтва "Кнігазбор" у 2019 годзе.

Новы твор Стасі Наркевіч рознажанравы. У выданні змешчаны аповесць, апавяданні, дарожныя нататкі. У аўтаркі свой непаўторны стыль, лёгкая мілагучная беларуская мова...

Асабіста мяне вельмі ўразіла аповесць "Прывідаў пярсцёнак", і апавяданні "Брат" і "Развітальны "Вясельны" вальс". Таксама зацікавілі нататкі "Дзівак з вакзала", "Дарожны трыпціх" і "Разбіты востраў кахання"... Сюжэты сваіх твораў пісьменніца чэрпае з паўсядзённага жыцця і асабістых назіранняў. Наклад кнігі 200 асобнікаў.

Настасся Пятроўна Лазебная (Стася Наркевіч) нарадзілася 28 чэрвеня 1952 года ў вёсцы Куляшы Маладзечанскага раёна Менскай вобласці. Скончыла студыю выяўленчага мастацтва пры Маладзечанскім доме народнай творчасці, факультэт журналістыкі БДУ. Працавала мастаком на Маладзечанскім заводзе "Спадарожнік", у гандлі, на будоўлі. Калі змяніла месца жыхарства з Маладзечна на Віцебск, ажыццяўляла прафесійную дзейнасць журналіста-карэспандэнта ў газетах "Віцебскі рабочы", "Рабочае слова", "Клімавец". Працавала рэдактарам газет "Клімавец", "Мы і час" ВДУ імя П. М. Машэрава, галоўным рэдактарам газет "Планета адкрыццяў", "Анастасія". Сябра Беларускага саюза журналістаў.

Празаік, паэт, гумарыст, публіцыст. Піша выключна на беларускай мове. Стася Наркевіч - аўтар кніг "Настальгія", "Пырскі", "Ты зразумей мяне такую..:" (аздобленая графічнымі работамі аўтара), "Камп'ютарны путанчык", казак-размалёвак "Віялета, бабулечка і чароўны дроцік", "Як Васілёк выратаваў каралеўства", "Неверагодныя здарэнні на неверагоднай планеце"

Стася Наркевіч з'яўляецца ўкладальніцай літаратурна-мастацкага альманаха "Ратуша" Віцебскага абласнога Саюза беларускіх пісьменнікаў, які ўзначальвае з 2013 года.

Стася Наркевіч выказвае шчырую падзяку свайму брату Уладзіміру Наркевічу за падтрымку ў ажыццяўленні выдання. Словы ўдзячнасці адрасуе таксама былым супрацоўнікам Тацціяне Дубоўскай, Алесі Дуброўскай, літаратуразнаўцы Ірыне Саматой, мастацтвазнаўцу Міхаcю Цыбульскаму, мастаку Сцяпану Курневічу і Вользе Мацкевіч за дапамогу ў падрыхтоўцы кнігі. Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў.

*Аляксей Шалахоўскі,*
*гісторык культуры, журналіст- фрылансер.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by, kajety@list.ru



**http://nslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі “Выдавецкі дом ТБМ”.
Газета падпісана да друку 21.06.2021 г. у 17.00. Замова № 1453.
Аб’ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1200 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,88 руб., 3 мес.- 8,64 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.